## ВІКТАР ГЮГО



# ГАЎРОШ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
Мінск 1946

ВІКТАР ГЮГО



# ГАЎРОШ

*Пераклад з рускай мовы*




*ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР*
*Рэдакцыя дзіцячай літаратуры*
*МІНСК 1946*

# ЗМЕСТ

| | |
|---|---|
| Дзіця Парыжа | 3 |
| Гаўрош сустракае малых дзяцей | 6 |
| У гасцях у слана | 11 |
| Гаўрош у паходзе | 20 |
| Гаўрош дапамагае будаваць барыкаду | 25 |
| Ноч на барыкадзе | 29 |
| Атака | 38 |
| Маленькі герой | 40 |

Рэдактар *Віт. Няміра*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *Л. Баўдзей*

АТ 01453 Падпісана да друку 24/II-46 г.
тыраж 10000 экз. Папера 60×84/16 Вуч.-аўт.
арк. 2,0 Друк. арк. 2 3/4 Заказ № 682

Мінск, друкарня імя Сталіна, Пушкіна, 55.

# ДЗІЦЯ ПАРЫЖА

Па вуліцах Парыжа бадзяліся брудныя, абшарпаныя хлапчукі. Гэтых вулічных хлапчукоў называлі гаменамі. На целе ў іх не было кашулі, на нагах—чаравікаў, над галовамі—страхі.

Калі-б вялізнаму гораду можна было задаць пытанне, хто такія гэтыя хлапчукі? Парыж адказаў-бы: гэта—мае дзеці.

Парыж кішэў такімі маленькімі брадзягамі. Змучаныя беднасцю і непасільнай працай, бацькі знікшых дзяцей часта нават не спрабавалі давядацца, дзе яны падзеліся і што з імі. Трушчобы Парыжа выкідвалі дзяцей на голыя вуліцы. Паліцыя ў час начных абходаў вылоўлівала сотні маленькіх брадзяг у пустырах, у неадбудаваных дамах, пад скляпеннем мастоў.

Не дзіва, што вулічны хлапчук у Парыжы ледзь не ўсіх паліцэйскіх мог па пальцах пералічыць. Ён вам мог адрапартаваць, не задумваючыся: „Гэты вось—здраднік, гэты—зласлівец, гэты—велікан, гэты—дзівак; гэтаму здаецца, нібы Новы мост яго ўласнасць, і ён забараняе, каб публіка гуляла па яго карнізах і парэнчах; а ў таго благая прывычка драць за вуха прахожых“.

Не ўсякаму шанцавала трапіць у шайку вулічных хлапчукоў Парыжа. Заслужыць іхнюю пашану—нялёгкая справа.

Іншага таварыша паважалі за тое, што ён бачыў, як чалавек зваліўся з высокай вежы; другога—за

тое, што ў яго перад вачыма перакулілася паштовая карэта; трэцяга—таму, што ён ведаў салдата, які ледзь не выкалаў вочы аднаму буржую.

Гамены, вядома, вялікія задзіры. Яны любілі выхваляцца: „Ого, які я дужы!“ Ляўша сярод іх выклікаў зайздрасць. Да касавокіх была асаблівая пашана.

У тыя часы, аб якіх будзе тут размова[1], па бульвару Тампль заўсёды блукаў хлапчук гадоў адзінаццаці-дванаццаці. Таварышы звалі яго Гаўрошам. Апрануты ён быў задужа смешна: у мужчынскія штаны і ў жаночую кофту. Штаны яму падарыў не бацька, кофту аддала не маці. А ў яго былі бацька і маці. Але бацька пра яго не клапаціўся, маці не любіла.

Гэтаму хлопчыку лепш за ўсё жылося на вуліцы.

Гаўрош быў шумлівы, бледны, спрытны, жартаўлівы і бойкі. Ён бадзяўся па вуліцах, распяваў песенькі, капаўся ў рыштках у нечыстотах, часам краў якую-небудзь дробязь, весела, як крадуць кошкі і вераб‘і. Смяяўся, калі яго называлі вулічным хлапчуком, злаваўся, калі яго абзывалі прайдзісветам. У яго не было ні прытулку, ні хлеба, ні агню, ніхто яго не любіў. Але ён быў вясёлы.

Аднак, як ні адзінокае і закінутае было гэтае дзіцця, яму ўсё-ж часам прыходзіла ў галаву: пара пайсці пабачыць маці; ён пакідаў вялікія бульвары, вароты Сен-Мартэн, спускаўся па ўзбярэжных, пераходзіў масты і, нарэшце, дабіраўся да халупы ў бедным прадмесці.

Гаўрош прыходзіў і бачыў жабрацтва. Сумней за ўсё было тое, што ніхто не сустракаў яго ўсмешкай, усе былі няветлівыя, як няветлівы, халодны быў іхні пусты прытулак.

---

1 Каля ста год таму назад.

Калі ён уваходзіў, у яго пыталіся:

— Ты адкуль узяўся?

Ён адказваў:

— З вуліцы.

Калі адыходзіў, пыталіся:

— Куды ідзеш?

Ён адказваў:

— На вуліцу.

## ГАЎРОШ СУСТРАКАЕ МАЛЫХ ДЗЯЦЕЙ

Вясна ў тым годзе пачалася рана. У сакавіку адразу зрабілася цёпла. Але ў красавіку раптам зноў пачаліся рэзкія халады. У Парыжы так часта бывае.

У адзін з халодных красавіцкіх вечароў Гаўрош стаяў перад ярка асветленай цырульняй на шматлюднай вуліцы. На шыі ў яго быў жаночы шаль. Гаўрош рабіў выгляд, што з захапленнем любуецца выстаўленай у вітрыне галавой з воску з моднай прычоскай, аздобленай кветкамі.

Галава гэтая круцілася ва ўсе бакі, што раз кідаючы ўсмешкі прахожым. На самай-жа справе Гаўрош паглядаў, ці не ўдасца яму сцягнуць з выстаўкі кавалак мыла. Цырульнікі прадмесця ахвотна куплялі ў яго такія крадзеныя кавалкі за некалькі су. Выручаных грошай яму даволі было на абед. Гаўрош быў здатны на такія штукі. Ён называў гэта „галіць цырульнікаў“. Любуючыся красуняй, зробленай з воску, ён мармытаў: „ У аўторак?.. Не, не ў аўторак... Хіба не ў аўторак?.. Так, вядома, у аўторак“.

Гаўрош стараўся ўспомніць дзень, калі ён апошні раз абедаў. Гэта было дні тры таму назад.

Цырульнік галіў нейкага буржуя і злосна пазіраў

на свайго ворага, на замёрзшага дзёрзкага хлапчука з рукамі, засунутымі ў кішэні, і дзёрзкімі думкамі ў галаве.

Раптам Гаўрош убачыў, што ў краму ўвайшлі два хлопчыкі. Зусім маленькія: адзін гадоў сямі, другі гадоў пяці.

Абодва былі апрануты нядрэнна. Яны ці то прасілі міласціны, ці то аб нечым пыталіся. Нельга было зразумець. Абодва гаварылі адразу, моцны плач перапыняў іхнія словы. Цырульнік, як ашалелы, павярнуўся, выштурхнуў іх на вуліцу і захлопнуў дзверы са словамі:

— Прыходзяць і напускаюць холаду з-за ўсякай хлусні.

Дзеці, моцна плачучы, пацягнуліся далей. Цёмная хмара закрыла неба, пайшоў дождж.

Гаўрош пабег за дзецьмі.

— Што з вамі здарылася, малыя?

— Мы не ведаем, дзе начаваць,—адказаў старэйшы.

— Толькі гэта?—сказаў Гаўрош.—Падумаеш, якая бяда! Хіба з-за гэтага плачуць? Вось дурні!

І дадаў з адценнем пяшчотнасці і перавагай у голасе:

— Пойдзем са мной, хлапчукі!

— Добра, судар,—згадзіўся старэйшы.

Дзеці даверліва пайшлі за Гаўрошам. Яны перасталі плакаць.

Аддаляючыся, Гаўрош з абурэннем азіраўся на цырульню.

— Стварэнне бессардэчнае,—бурчэў ён.—Сапраўдная змяя. Слухай, брадабрэй, я паклічу слесара і загадаю прычапіць табе на хвост бразготку.

Гэтая думка выклікала ў ім задзірысты настрой. Пераходзячы лужыну і ўбачыўшы бабульку з мятлой у руках, ён запытаў:

— Сударыня, як відаць, вы вывелі пагуляць свайго каняку?

І тут-жа запырскаў гразёю лакіраваныя чаравікі прахожага.

— Балван!--злосна крыкнуў прахожы.

Гаўрош высунуў нос з свайго шаля.

— Судар, вы на каго скардзіцеся?

— На каго-ж, як не на цябе,—сказаў прахожы.

— Кантора закрыта,—сказаў Гаўрош.—Я больш не прымаю скаргаў.

Каля варот нейкага дома ён заўважыў скалеўшую ад холаду жабрачку—дзяўчынку гадоў дванаццаці.

— Небарака!—пашкадаваў яе Гаўрош.—Вось табе. Бяры!—Ён зняў з сябе цёплую шарсцяную хустку і накінуў яе на кастлявыя плечы жабрачкі.

Скручаная ў шаль хустка распусцілася і ахутала дзяўчынку з галавы да ног. Дзяўчынка паглядзела на яго са здзіўленнем і моўчкі ўзяла падарунак.

— Брр...—вымавіў Гаўрош, курчачыся ад холаду.—Затое ёй будзе цёпла. Яна цяпер, як у футры.

Твар яго бліснуў весялосцю.

У гэтую хвіліну лінуў дождж.

— Зноў дождж!—ускрыкнуў Гаўрош.—Не, я больш не маю намеру прагульвацца.

Ён паскорыў шагі.

— Пляваць мне на цябе!—крыкнуў ён, гледзячы на хмару.

Дзеці стараліся паспець за ім.

Праходзячы міма булачнай, Гаўрош адвярнуўся.

— Хлопчыкі, ці вы абедалі?

— Судар,—адказаў старэйшы,—мы з самага ранку не елі.

— У вас, значыцца, няма ні бацькі, ні маткі?—запытаў Гаўрош.

— У нас ёсць мама,—сказаў старэйшы.—Але мы не ведаем, дзе яна.

— Іншы раз лепш гэтага не ведаць,—адказаў Гаўрош.

— Мы стараліся знайсці што-небудзь на вуліцы,—гаварыў старэйшы хлопчык,—але нічога не было.

— Ведаю,—сказаў Гаўрош. — Сабакі ўсё з'ядаюць.—І, памаўчаўшы, дадаў:—Дык вы згубілі матульку? Не ведаеце, дзе яна дзелася? Гэта нядобра, дзеткі! Неразумна губляць старэйшых. Аднак, трэба што-небудзь пажаваць.

Ён не распытваў іх больш. Бяздомныя дзеці—што за навіна!

Ён спыніўся і пачаў старанна шнарыць у сваіх дзіравых кішэнях. Раптам ён падняў галаву з радасным выглядам:

— Уцешцеся! Мы зараз павячэраем утраіх.

Ён выхапіў з кішэні су, паспешна ўштурхнуў дзяцей у булачную, шпурнуў манету на прылавак і крыкнуў:

— Хлеба на пяць санцімаў!

Булачнік узяў нож і хацеў яму адрэзаць кавалак хлеба.

— Раздзяліце яго на тры часткі,—запатрабаваў Гаўрош і важна дадаў:—бач,—нас трое.

Булачнік, зірнуўшы на дзяцей, намерыўся быў адрэзаць ім чорнага хлеба, але Гаўрош крыкнуў яму з абурэннем:

— Што гэта такое? Белага! Адрэжце самага лепшага белага хлеба. Я частую.

Булачнік засмяяўся

— Вы, здаецца, лічыце нас за малых,—пакрыўдзіўся Гаўрош.

Булачнік адрэзаў яму белага хлеба. Гаўрош сказаў дзецям:

— Жарыце.

Хлопчыкі глядзелі на яго са здзіўленнем. Гаўрош рассмяяўся.

— Ах, вось. Яны не разумеюць. Яны маленкія.—І дадаў: – Ешце.

Ён даў ім па кавалку хлеба.

Лічачы, што старэйшы заслугоўвае асаблівага заахвочвання і лепш зразумее яго, Гаўрош працягнуў яму самы вялікі кавалак і павучальна сказаў:

— Загані ў бруха.

Сабе ён узяў самы маленькі кавалак.

Дзеці, у тым ліку і Гаўрош, былі вельмі галодныя. Яны прагна жавалі хлеб, стоячы ў праходзе і загароджваючы дарогу пакупнікам. Булачнік, які атрымаў грошы, глядзеў на іх з прыкрасцю.

— Выйдзем на вуліцу,—сказаў Гаўрош.

Яны пайшлі ў напрамку да Бастыліі.

## У ГАСЦЯХ У СЛАНА

У тыя часы на пляцы Бастыліі стаяў дзіўны помнік, цяпер зусім забыты парыжанамі. Гэта быў велізарны слон з дрэва і тынку.

На спіне ў яго красавалася вежа, выфарбаваная зялёнай фарбай, пачарнелай ад дажджу і непагоды.

Слон стаяў на самым аддаленым рагу пляца. Шырокі лоб велікана, яго хобат, клыкі, вежа, велізарны круп, чатыры нагі, падобныя да калон, выступалі ўночы на зорным небе, дзіўныя і страшныя. Вось на гэты рог пляца, ледзь асветлены водбліскам далёкага ліхтара, Гаўрош прывёў малых.

— Не пужацца, дзеці,—сказаў Гаўрош.

Ён пралез праз дзірку ў агарожы, што акружала слана, і ўцягнуў за сабой дзяцей. Атарапелыя малыя пакорна ішлі за незнаёмым абшарпаным хлапчуком.

Каля агарожы ляжала лесніца. Удзень ёю кары-

сталіся рабочыя суседняга лясного склада. Гаўрош падняў яе, з незвычайнай для яго ўзросту сілай, і прыставіў да адной з пярэдніх ног слана. Лесніца даставала да месца, дзе відаць была чорная дзірка ў бруху веліканa. Гаўрош паказаў дзецям на лесніцу і на дзірку.

— Лезьце і ўваходзьце.

Хлопчыкі спалохана пераглянуліся.

— Вы спужаліся, дзеткі!—ускрыкнуў Гаўрош і дадаў:—Вось паглядзіце.

Ён абхапіў рукамі шаршавую нагу слана і ўмомант, не зважаючы на лесніцу, дабраўся да адтуліны. Ён улез у яе, нібы яшчарка ў шчыліну, і знік. Праз хвіліну бледны яго твар высунуўся з цёмнай дзіркі.

Дзеці глядзелі, разявіўшы раты.

— Ну лезьце-ж! Убачыце, як тут добра. Лезь ты першы,—звярнуўся ён да старэйшага.—Схапіся за маю руку.

Малыя туліліся адзін да аднаго. Яны і пабайваліся Гаўроша і давяралі яму. Дождж ліў усё мацней. Нарэшце, старэйшы адважыўся. Маленькі, убачыўшы, што брат палез наверх, а ён астаўся зусім адзін паміж ног велізарнага звера, ледзь быў не заплакаў, але не пасмеў.

Старэйшы, хістаючыся, карабкаўся па перакладзінах лесніцы. Гаўрош, падахвочваючы, пакрыкваў:

— Не бойся! Так, так. Наперад! Нагу стаў сюды! Руку давай сюды! Смялей!

Як толькі маленькі хлопчык параўнаўся з Гаўрошам, той спрытна і моцна схапіў яго за руку і прыцягнуў да сябе.

— Кончана,—сказаў Гаўрош.

Малы залез у адтуліну.

— Цяпер,—сказаў Гаўрош,—пачакай мяне. Калі ласка, прысядзьце, судар.

Ён вылез з адтуліны, з лоўкасцю малпы спусціўся

па назе слана, саскочыў на зямлю, схапіў пяцігадовага хлопчыка, паставіў яго на сярэднюю перакладзіну лесніцы, а сам палез услед за ім.

— Я буду яго падпіхаць, а ты яго цягні!—крыкнуў ён старэйшаму.

За хвіліну малютку паднялі па лесніцы, падпіхаючы, цягнучы за руку, і ўвапхнулі ў адтуліну. Ён і апамятацца не паспеў.

Гаўрош улез услед за ім і штуршком нагі адпіхнуў лесніцу. Яна павалілася на зямлю. Гаўрош запляскаў у ладкі.

— Вось мы і дома. Урра!

І цераз хвіліну дадаў:

— Вы ў мяне ў гасцях, дзеці.

Адтуліну, у якую ўпаўзлі дзеці, знадворку ледзь можна было заўважыць. Яна знаходзілася ў слана пад брухам і да таго была вузкая, што залазіць у яе маглі толькі кошкі і дзеці.

— Перш за ўсё,—сказаў Гаўрош,—абвесцім, што нас няма дома.

Гаўрош недзе знік у цемры. Відаць, ён добра ведаў сваё жыллё.

Выцягнуўшы аднекуль дошку, Гаўрош закрыў ёю адтуліну.

Потым зноў знік. Дзеці пачулі, як зашыпела запалка, усунутая ў бутэльку з фосфарам.

Ад раптоўнага святла дзеці зажмурылі вочы. Гаўрош запаліў кнот, намочаны ў смалу. Такі кнот называўся свечкай сутарэння. Свечка гэтая больш чадзіла, чым гарэла. Але пры яе цьмяным святле можна было сяк-так разглядзець унутранасць слана. Маленькія госці Гаўроша азіраліся са страхам. Уверсе была доўгая цёмная бэлька, а ад яе ішлі масіўныя поўкруглыя перакладзіны. На іх віселі адстаўшы тынк і густое павуцінне.

Малодшы хлопчык прытуліўся да брата і шапнуў:

— Цёмна.

Гаўрош на яго прыкрыкнуў. Не шкодзіла-б задаць устраску гэтым баязліўцам.

— Вы чаго задаіцеся? Ці не загадаеце завесці вас у палац? Што вы дурня валяеце? Папярэджваю, я цярпець не магу ёлапаў.

Вокліч іншы раз бывае карысны.

Хлопчыкі падбадзёрыліся і падпаўзлі бліжэй да Гаўроша.

Расчулены іх даверлівасцю, Гаўрош замяніў гнеў на ласку.

— Дурненькі,—звярнуўся ён да малодшага.— Гэта на двары цёмна. Там ідзе дождж, а тут не ідзе. Там сцюдзёна, а тут ані вятрынкі. Там людзі, а тут нікога няма. Там нават месяца няма, а тут гарыць мая свечка.

Дзеці азіраліся ўжо не з такім страхам.

— Ну, хутчэй,—сказаў Гаўрош і штурхануў іх у глыбіню свайго пакоя, туды, дзе была яго пасцель.

Пасцель у Гаўроша была самая сапраўдная: у яго былі сяннік і коўдра.

За сяннік служыла саламяная цыноўка, за коўдру— вялікі кавалак тоўстай шарсцянай шэрага колеру тканіны, вельмі цёплай і амаль зусім новай. А балдахін быў вось як змайстраваны:

Вакол пасцелі стаялі тры доўгія падпоркі, убітыя ў падлогу, гэта значыць у бруха слана. Угары яны былі звязаны вяроўкай у пучок. Пучок гэты падтрымліваў вельмі лоўка прымацаваную сетку з меднага дроту. Сетка з усіх бакоў акружала падпоркі. Вялікія камяні прыціскалі гэтую сетку да падлогі, так што пралезці за яе нельга было.

Гэтая сетка была не што іншае, як частка меднай рашоткі, якая акружала птушнік у звярынцы. Гаўрош спаў нібы ў клетцы.

Гаўрош ссунуў камені, наваленыя на пярэднія палавінкі сеткі.

— Дзеці, паўзіце сюды,— загадаў Гаўрош.

Ён упусціў гасцей у клетку, сам улез за імі, зноў ссунуў камені і шчыльна закрыў уваход.

Усе трое разлегліся на цыноўцы.

Клетка была нізкая. Нават самы маленькі з трох хлопчыкаў не здолеў-бы ў ёй змясціцца стоячы. Гаўрош усё яшчэ трымаў у руках свечку сутарэння.

— Цяпер,—сказаў ён,—спаць. Я прыбяру кандэлябр.

— Судар,—запытаў старэйшы хлопчык, паказваючы на сетку,—што гэта такое?

— Гэта ад пацукоў,—важна адказаў Гаўрош.— Усё гэта я нацягаў з Батанічнага саду. Ты-ж ведаеш, што там ёсць звярынец. Там колькі хочаш такіх рашотак. Варта толькі ўскарабкацца на сцяну, пралезці ў акно і праслізнуць у дзверы. Можна настраляць цэлую кучу.

Балбочучы, ён захутаў часткай коўдры маленькага хлопчыка. Той прамармытаў:

— Ой, як добра! Цёпла.

Гаўрош самаздаволена паглядзеў на коўдру.

— Гэта таксама з Батанічнага саду,—сказаў ён.— Я адабраў яе ў малпаў.

І, ткнуўшы пальцам у тоўстую, надзвычайна добра сплеценую цыноўку, на якой яны ляжалі, дадаў:

— А гэта я ўзяў у жырафы.

Памаўчаўшы, Гаўрош сказаў:

— У жывёл усяго давολі. Я ў іх і ўзяў. Яны не раззлаваліся. Я ім сказаў: „Гэта ў падарунак слану".

Малыя са здзіўленнем і з палахлівай павагай глядзелі на гэтага дзёрзкага і вынаходлівага хлапчука. Маленькі бяздомны хлапчук, такі-ж адзінокі, як і яны, і ў той-жа час усемагутны.

— Судар,—палахліва запытаў старэйшы,—вы, значыцца, не баіцеся паліцэйскіх?

— Не кажуць—паліцэйскі, кажуць—калаціла. Запомні, малакасос.

Малодшы хлопчык ляжаў, шырока расплюшчыўшы вочы, коўдра спаўзла з яго. Гаўрош зноў клапатліва накрыў хлопчыка і падапхнуў яму пад галаву ўсякае рыззё замест падушкі. Потым звярнуўся да старэйшага:

— Што? Добра тут?

— О, так!—адказаў старэйшы, радасна гледзячы на Гаўроша.

Небаракі вельмі прамоклі і цяпер пачалі сагразацца.

— Вось бачыце,—сказаў Гаўрош.—Чаго-ж вы хныкалі?

Ён паказаў на маленькага і дадаў:

— Што такі пузыр перапужаўся, я яшчэ разумею. Але вялікаму хлопчыку неяк сорамна раўці. Ці-ж ты цяля, ці што?

— Мы не ведалі, дзе нас пакладуць спаць, у які дом нам увайсці,—сказаў хлопчык.

— Слухай,—казаў далей Гаўрош,—ты больш ніколі не енчы. Я аб вас паклапачуся. Пабачыш, як будзе весела. Улетку мы разам з Наве—гэта мой таварыш—будзем хадзіць купацца ў Сене і будзем бегаць голыя па плытах, каля маста. Мы пойдзем глядзець на чалавека-шкілета. Ён жывы. Яго паказваюць у Елісейскіх палях. Вось ху-дзю-шчы... Такога ты яшчэ ніколі не бачыў. Я вас павяду ў тэатр. Мне даюць білеты, я знаёмы з акцёрамі, я нават сам аднойчы прыняў удзел у прадстаўленні. Нас было некалькі хлопчыкаў, мы бегалі пад палатном. Гэта было мора, а мы рабілі хвалі. Я вас таксама вазьму з сабой прадстаўляць. Я прашмыгну без білета. Мы здорава будзем весяліцца.

У гэтую хвіліну смала капнула Гаўрошу на палец.

— Чорт,—прабурчэў ён,—так у мяне ўвесь кнот згарыць. Слухайце, я не магу траціць больш аднаго су ў месяц на асвятленне. Калі ляглі, дык спіце. Яшчэ, чаго добрага, сышчыкі ўбачаць святло праз шчыліну.

— Акрамя таго,—палахліва заўважыў старэйшы (ён адзін асмельваўся гаварыць з Гаўрошам),—іскра можа ўпасці ў салому і спаліць дом.

На дварэ ўзнялася бура. Чуваць было, як дождж хвастаў па спіне велікана-слана.

— А дождж вось астаўся з носам,—сказаў Гаўрош.—Няхай сабе барабаніць па страсе. Зіма, дурніца, уздумала вярнуцца. Нас яна не прамочыць, дык вось і злуецца. Дарэмна, старая, расплёскваеш вёдры.

Тут грымнуў гром. Вясенняя непагода ў Парыжы, не гледзячы на рэзкі холад, часта суправаджаецца навальніцай. Малыя ўскрыкнулі і так жвава падскочылі, што ледзь не ссунулі з месца сетку.

Але Гаўрош павярнуў да іх свой смелы твар і рассмяяўся.

— Ціха, дзеці! Не зламіце дома. Вось дык гром! Цудоўна. Брава! Лепш і ў тэатры не бывае.

Ён перакуліў дзяцей на пасцель, паклаў іх як найзручней і сказаў:

— Ну, дзятва, пара спаць. Як лепш захутайцеся ў коўдру. Я патушу свечку. Ну, гатовы?

— Мне вельмі добра,—прамармытаў старэйшы.— Нібы ў мяне пуховая падушка пад галавой.

Гаўрош падапхнуў дзецям коўдру пад самы падбародак.

— Дрыхніце, дзеці,—загадаў ён сурова і патушыў свечку.

Як толькі святло пагасла, пачуўся нейкі асаблівы шорах. Сетка, пад якой ляжалі дзеці, затрэслася і зазвінела, нібы медны дрот драпалі кіпцюрамі і грыз-

лі зубамі. Пры гэтым з усіх бакоў быў чуцен піск. Пяцігадовы хлопчык, пачуўшы гэты шум над сваёй галавой, змярцвеў ад жаху і штурхнуў локцем старэйшага брата, але той ужо заснуў. Малютка, не могучы перамагчы свой страх, адважыўся загаварыць з Гаўрошам. Ён запытаў у яго шэптам, ледзь дыхаючы:

— Судар, што гэта?

— Пацукі,—адказаў Гаўрош.—Спі!

Малы не супакойваўся.

— Судар!

— Га?—спрасонку прабурчэў Гаўрош.

— Што гэта такое—пацукі?

— Гэта такія мышы.

Тлумачэнне Гаўроша крыху супакоіла дзіцяя. Яно бачыла белых мышэй, і іх яно не баялася. Але праз хвіліну яно загаварыла зноў:

— Судар!

— Га?—адклікнуўся Гаўрош.

— Чаму ў вас няма ката?

— Быў,—адказаў Гаўрош.—Я прынёс ката, ды яны яго зжэрлі.

Хлопчык затросся ад страху.

—Судар!

— Га?

— Каго зжэрлі?

— Ката.

— Хто яго зжэр?

— Пацукі.

— Мышы?

— Так. Пацукі.

— Судар, а яны нас не зжаруць?

— Не бойся,—сказаў Гаўрош.—Яны не могуць улезці. І потым, я-ж тут. Вось бяры мяне за руку. Маўчы і дрыхні!

Гаўрош працягнуў малому руку. Хлопчык пры-

ціснуў яе да сябе і супакоіўся. Навокал усё сціхла. Гук галасоў спалохаў пацукоў, яны разбегліся. Праз некалькі хвілін яны зноў узнялі мітусню, але хлопчыкі нічога не чулі. Усе трое моцна спалі.

Раніцою Гаўрош рана разбудзіў малых, спрытна дапамог ім выбрацца з бруха велікана-слана, умудрыўся іх накарміць і пайшоў, кінуўшы іх пад апеку вуліцы,—бо яна-ж і яго ўзгадавала і выхавала. Пакідаючы дзяцей, ён сказаў:

— Я ўцякаю, дзеці. Калі не знойдзеце маці, варочайцеся ўвечары сюды. Я пачастую вас вячэрай і пакладу спаць.

Дзеці не вярнуліся. Іх, напэўна, падабраў паліцэйскі і завёў ва ўчастак. А, можа, яны проста згубіліся ў велічэзным Парыжы. Гаўрош іх больш не бачыў. Не раз ён, пачухваючы галаву, гаварыў:

— Куды падзеліся мае хлопчыкі, чорт вазьмі?

## ГАЎРОШ У ПАХОДЗЕ

У гэты час у Парыжы пачыналіся вялікія падзеі. Змучаныя жабрацтвам і непасільнай працай рабочыя, рамеснікі і іншыя прыгнечаныя рыхтаваліся паўстаць супроць урада. Ва ўрадзе сядзелі банкіры і фабрыканты. Яны клапаціліся толькі аб сваёй выгадзе, іх не турбавала тое, што народ цярпіць нястачу і голад.

Ужо ў розных месцах Францыі выбухалі бунты. Іх падаўлялі, але яны зноў аднаўляліся.

Пажар разгараўся.

Францыя глядзела на Парыж. Парыж сачыў за прадмесцем Сент-Антуан. Прадмесце Сент-Антуан бурліла.

У шынках рабочыя адкрыта абмяркоўвалі пытанне, выступаць у бой ці чакаць...

— Нас трыста чалавек, —гаварыў адзін рабочы.—Калі сабраць па дзесяць су, гэта дасць сто пяцьдзесят франкаў. Іх трэба страціць на кулі і порах.

— Праз два тыдні нас будзе дваццаць пяць тысяч,—гаварыў другі,—і мы памераемся сіламі з урадам.

— Я не сплю ночы,—гаварыў трэці,—таму што рыхтую начамі патроны.

Усе гэтыя прамовы гаварыліся адкрыта сярод белага дня.

Так выглядалі справы.

Гэтае становішча асабліва ясна адчувалася ў прадмесці Сент-Антуан. Гэта старадаўняе прадмесце, густа населенае, як мурашнік, працавітае і сярдзітае, як вулей, дрыжэла ад нецярпення і чакала выбуху.

Велічэзны Парыж быў падобны да пушкі, калі яна зараджана: даволі адной іскры, каб грымнуў стрэл.

І вось, аднойчы раніцою, прадмесце Сент-Антуан прыняло грозны выгляд. У шумнай сеці яго вуліц узнялося хваляванне. Кожны ўзбройваўся, чым толькі мог. Рабочыя, ідучы па вуліцах, гаварылі шэптам адзін аднаму:

— Дзе ў цябе пісталет?

— Пад блузай. А ў цябе?

— Пад кашуляй.

На вуліцах перад майстэрнямі тоўпіўся народ і шаптаўся. Рабочыя чакалі прадстаўнікоў паўстаўшых прадмесцяў.

Паролямі абменьваліся амаль голасна і адкрыта.

Велізарная працэсія рушыла па Парыжу. Выгнаннікі ўсіх краін, знайшоўшыя прытулак у Парыжы, неслі сцягі: іспанскія, італьянскія, нямецкія, польскія. Дзеці размахвалі зялёнымі галінкамі. Далей грознымі натоўпамі цягнуліся рабочыя: грузчыкі, каменшчыкі, плотнікі, маляры, шкляры, наборшчыкі.

Буржуа ў перапалоху пазіралі на іх з балконаў і з вокан дамоў.

Урад быў насцярожаны і трымаў войскі напагатове: дваццаць чатыры тысячы салдат у горадзе і трыццаць тысяч у яго прадмесцях. Калі натоўп і войскі спаткаліся, загрымела бура: паляцела каменне, пачалася перастрэлка; драгуны пусцілі ў ход шаблі, натоўп разбегся ва ўсе бакі, па ўсіх канцах Парыжа падняўся ваяўнічы кліч:

— Да зброі!

На бульвары Сен-Мартэн разграмілі фабрыку зброі і тры крамы зброі. За некалькі хвілін тысячы рук расхваталі і забралі з сабой сотні ружжаў, пісталетаў і шабляў. Паўстаўшыя разбівалі ліхтары, абшарвалі скляпы, каціли бочкі, грамаздзілі булыжнік на вуліцах, каменне, мэблю, дошкі, і не прайшло і гадзіны, як безліч барыкад нібы з зямлі вырасла. Да вечара трэць Парыжа была ў руках паўстаўшых. Буржуазію ахапіў страх. Усюды запіраліся дзверы, вокны і вакеніцы. Усюды расхаджвалі ваенныя патрулі, абшукваючы і затрымліваючы прахожых. Астрогі і паліцэйскія ўчасткі былі біткам набітыя. У іх нехапала месца. Мноства арыштаваных ляжала проста на дварах, адзін на адным. Раздаваліся сігнальныя ражкі, бой барабанаў, ружэйныя стрэлы і тужлівыя гукі набата.

— Чым усё гэта скончыцца?—са страхам запытвалі адзін аднаго буржуі.

Настала ноч. Паўстанне грозным полымем азарала Парыж.

Пасля першай ранішняй сутычкі войска з народам натоўп адхлынуў з пляца Арсенала і бурным патокам расплыўся ва ўсе бакі. На вуліцы Мяніль-Мантан з натоўпу выбег абшарпаны хлапчук. У руках у яго была квітнеючая галінка ракітніку. Хлапчук убачыў на выстаўцы гандляркі старызнай піста-

лет. Ён кінуў квітнеючую галінку на брук і крыкнуў:

— Цётка, я пазычаю тваю штуку.

Хлапчук схапіў пісталет і пабег.

Гэта быў Гаўрош. На бульвары ён заўважыў, што пісталет яго без курка. Ён зірнуў на яго з дакорам:

„Я-то збіраюся ў бой, ды ты не збіраешся“.

На рынку Сен-Жан, дзе ваенны караул быў ужо абяззброены, Гаўрош далучыўся да натоўпу рабочых і студэнтаў. Усе яны былі так-сяк узброены. У аднаго была паляўнічая двухстволка; у другога — стрэльба гвардзейца, а за поясам два пісталеты, яны відаць былі з-пад расшпіленага сурдута; у трэцяга — стары кавалерыйскі мушкет; у чацвертага — карабін.

Наперадзе ўсіх ішоў чалавек з агалёнай шабляй у руцэ. Усе яны задыхаліся, прамоклі пад дажджом. Вочы іх гарэлі. Гаўрош спакойна запытаў у іх:

— Куды мы пойдзем?

— Хадзем з намі, — адказалі яму.

Гаўрошу больш за ўсіх спадабаўся чалавек у чырвонай камізэльцы. Ён ішоў падскокваючы, і, як відаць, адчуваў сябе, як рыба ў вадзе.

Таварышы звалі яго Багарэлем. Убачыўшы яго камізэльку, якісьці прахожы перапалохаўся і залемантаваў:

— Вось ідуць чырвоныя.

— Чырвоныя, чырвоныя! — запярэчыў Багарэль. — Знайшоў, чаго баяцца.

Ён убачыў наклееную на сцяне нейкую адозву ўрада і сарваў яе.

Гаўрош быў у захапленні. З гэтай хвіліны ён вачэй не спускаў з Багарэля.

Маладых людзей суправаджаў шумны натоўп. Ён складаўся з партовых рабочых, грузчыкаў, студэнтаў, мастакоў, з палкамі або з стрэльбамі ў руках, з пісталетамі за поясам. Па дарозе да іх далучаліся прахожыя.

# ГАЎРОШ ДАПАМАГАЕ БУДАВАЦЬ БАРЫКАДУ

Шумны натоўп углыбіўся ў сецъ старых вуліц, хмурных, звілістых і вузкіх. Дамы на іх былі дзіўныя, рознай велічыні, пабудаваны крыва і коса.

Выходзячы з вуліцы Сен-Дэні на вуліцу Шанврэры, натоўп трапіў у даўгаватую варонку. У канцы варонкі быў тупік з высокіх дамоў. У самай глыбіні яго стаяў невысокі дом. У гэтым доме змяшчаўся вядомы ў горадзе шынок, дзе збіраліся парыжскія рэвалюцыянеры.

З'яўленне натоўпу выклікала на вуліцы паніку. Прахожыя разбегліся. У адзін момант у глыбіні направа і налева ўсё зачынілася: крамы, уваходы ў дамы, вокны, вакеніцы ад першых паверхаў да вышак. Адчынены быў толькі ўваход у шынок, куды рынуў натоўп.

Не прайшло і некалькі хвілін, як з рашотак у вокнах шынка былі вырваны дваццаць жалезных пруццяў. Брук перад шынком быў разбураны— каменныя плітгы спатрэбіліся на барыкады. Міма праехаў воз, нагружаны бочкамі з вапнай. Гаўрош і Багарэль ураз абярнулі яго. Бочкі былі годныя для пабудовы барыкады. На іх навалілі булыжнік, вывернуты з бруку, але яго нехапіла. Адзін з студэнтаў спусціўся ў склеп, там было шмат пустых бочак. Ён павыкочваў іх адтуль. Рабочыя падперлі бочкі і воз вялізнымі грудамі пясчаніку. Адкуль яго раздабылі—невядома. Хутка палова вуліцы аказалася загароджаная сцяной вышэй чалавечага росту. На рагу паказаўся амнібус, запрэжаны ў пару белых коней.

— Стой!

У адну хвіліну Багарэль перабег вуліцу, спыніў фурмана, высадзіў пасажыраў, далікатна падаючы руку

жанчынам, узяў коней за павады і прывёў іх разам з амнібусам да барыкады.

Коней распрэглі і пусцілі на волю, а амнібусам, перакуленым набок, загарадзілі вуліцу.

Гаўрош, ззяючы ад радасці, бегаў узад і ўперад, карабкаўся ўверх, спускаўся, шумеў, мільгаў усюды. Гаўрош быў, як віхор. Ён з'яўляўся ўсюды. Звонкі голас яго не змаўкаў ні на хвіліну. Велізарная барыкада адчувала яго ў сябе на плячах. Ён смяяўся над лодырамі, прымушаў працаваць гультаёў, падбадзёрваў зморaных; адных забаўляў, другіх уводзіў у злосць, трэцім назаляў, усіх тармашыў. Перабягаў ад адных да другіх. Снoўдаўся і гудзеў усюды, нібы муха.

— Смялей! Валіце булыжнік! Яшчэ! Болей бочак! Ваша барыкада малая! Яна ні чорта не варта. Цягніце сюды ўсё, што трапіць пад руку! Бурыце дом! Глядзіце, вунь шкляныя дзверы!

— Шкляныя дзверы?—са здзіўленнем ускрыкнулі рабочыя.—Што-ж з імі зробіш? Ах ты, аслянё!

— Самі вы аслы!—аблаяў іх Гаўрош.—Шкляныя дзверы вельмі годныя для барыкады. Па іх-жа не ўзойдзеш. Як відаць, вы не лазілі ў чужыя сады па яблыкі. Паспрабуйце пералезці цераз сцяну, абсыпаную кускамі шкла ад бутэлек. Няхай толькі гвардзейцы да нас палезуць, шкляныя дзверы пазразаюць ім мазалі. Ліха яму! Шкло—здрадніцкая штука!

Ён не мог вытрымаць ад злосці на свой пісталет без курка. Да ўсіх прыставаў:

— Дайце мне стрэльбу! Мне патрэбна стрэльба! Чаму мне не даюць стрэльбы?

— Табе стрэльбу?—засмяяўся адзін з рэвалюцыянераў.

— А чаму-ж не?—адказаў Гаўрош.

Другі рэвалюцыянер паціснуў плячыма.

— Калі ў ва ўсіх мужчын будуць стрэльбы, іх дадуць і дзецям.

Гаўрош ганарліва адвярнуўся і сказаў:

— Калі цябе заб'юць раней, чым мяне, я вазьму тваю.

Барыкада на вуліцы Шанврэры была невысокая. Узыйсці на яе можна было па каменных прыступках, зробленых унутры. Знадворку яна выглядала грознай і непрыступнай: груды булыжніку, перакулены амнібус, бочкі, умацаваныя бэлькамі і дошкамі.

Паміж сценамі дамоў і барыкадай была пакінута вузкая шчыліна, у яе мог пралезці чалавек. Так што выхад быў магчымы. Дышла амнібуса ўмацавалі на вяршыні фасада. На ім развяваўся чырвоны сцяг.

Усё гэта пабудавалі за адну гадзіну і без ніякай перашкоды.

Салдаты і паліцыя не паказваліся. Буржуа, трапляўшыя на вуліцу Сен-Дэні, убачыўшы барыкаду, уцякалі. Калі барыкада была пабудавана і сцяг узняты, з шынка выцягнулі стол. Адзін з студэнтаў на яго ўзабраўся.

Яго таварышы прынеслі скрыначку, поўную патронаў. Студэнт, што стаяў на стале, усміхаючыся, пачаў раздаваць патроны.

Барабанны бой, не змаўкаючы, раздаваўся па ўсяму Парыжу, але да яго гукаў прывыклі і на іх перасталі звярачаць увагу. Бой барабанаў то аддаляўся, то набліжаўся злавеснымі раскатамі. На вуліцы больш не паказваўся ні адзін прахожы. Пачалося змярканне. У маўклівай цемры насоўвалася нешта грознае. Адарваныя ад усіх, узброеныя, ахопленыя цвёрдай рашучасцю, спакойныя, рабочыя і студэнты чакалі

На барыкадзе запалілі вялікую смаляную паходню. Яе з трох бакоў абнеслі булыжнікам, каб захаваць ад ветру, і паставілі так, што ўсё святло яе пападала на сцяг. Вуліца і барыкада былі ахутаны цемрай. Відаць быў толькі чырвоны сцяг, ярка асветлены нібы велізарным патайным ліхтаром.

# НОЧ НА БАРЫКАДЗЕ

Пачалася ноч, ніхто не з'яўляўся. Чуваць быў толькі смутны гул і часам перастрэлка, але яна даносілася зрэдку і здалёку.

Гэтая працяглая адтэрміноўка паказвала, што ўрад збіраўся з сіламі. Пяцьдзесят чалавек рэвалюцыянераў чакалі шасцідзесяцітысячнае войска.

Гаўрош рабіў патроны ў шынку пры цьмяным святле двух свечак, гарэўшых на прылаўку.

З вуліцы гэтага святла не было відаць. У верхніх паверхах зусім не запальвалі святла.

Адзін з рэволюцыянераў, той самы, што смяяўся з Гаўроша, калі ён патрабаваў стрэльбы, падышоў да яго і сказаў:

— Слухай, ты—маленькі, цябе не заўважаць. Выйдзі за барыкады, праскоч уздоўж дамоў, пахадзі па вуліцах. Вернешся і раскажаш нам, што робіцца.

— Малыя могуць і спатрэбіцца, — ганарыста адказаў Гаўрош.— Што-ж, я пайду. А пакуль раю вам: давярайце маленькім болей, а вялікім меней.— Гаўрош знізіў голас і дадаў:—Бачыце вы гэтага вярзілу?

— А што?

— Гэта сышчык.

— Ты ўпэўнены?

— Кажуць вам. Тыдзень назад ён сцягнуў мяне за вуха з парэнчаў маста.

Хлапчук узяў па-ваеннаму пад казырок і пабег...

На вежы Сен-Меры прабіла дзесяць гадзін. Двое студэнтаў з стрэльбамі ў руках сядзелі каля лазейкі, пакінутай паміж сценамі дамоў і барыкадай. Яны маўчалі, прыслухоўваючыся і стараючыся ўлавіць гук самых глухіх і далёкіх крокаў.

Раптам, сярод змрочнай цішыні, пачуўся звонкі,

юны, вясёлы голас. Ён даносіўся з вуліцы Сен-Дэні і распяваў народную песеньку:

—...У іх мундзіры сінія
І шаблі на баку.
Агонь па лініі!
Ку-ка-рэ-ку!

— Гэта Гаўрош,—сказаў адзін з студэнтаў.

— Ён падае нам сігнал,—адказаў другі.

Паспешныя крокі парушылі цішыню бязлюднай вуліцы. Па амнібусу спрытна, як малпа, ускарабкаўся Гаўрош. Ён саскочыў усярэдзіну барыкады. Ледзь пераводзячы дыханне, хлапчук сказаў:

— Маю стрэльбу! Яны ідуць.

— Хочаш узяць мой карабін?—запытаў адзін з рабочых.

— Не, я хачу вялікую стрэльбу, — адказаў Гаўрош.

Яму далі вялікую стрэльбу.

Двое вартавых вярнуліся на барыкаду амаль аднначасова з Гаўрошам. На пасту астаўся толькі вартавы, які стаяў з боку мастоў і рынка. Відаць, адтуль войскі яшчэ не насоўваліся.

Абаронцы барыкады занялі свае баявыя пасты.

Сорак тры чалавекі, у тым ліку і Гаўрош, сталі на калены ўнутры барыкады: галовы іхнія былі ўроўні з вяршыняй умацавання, дулы стрэльбаў і карабінаў выстаўляліся з-за булыжніку, як з байніц. Усе маўчалі і былі напагатове. Шасцёра сталі, узяўшы стрэльбы на прыцэл, каля абодвух паверхаў шынка.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін, потым выразна пачуўся гук крокаў, мерных, цяжкіх, шматлікіх. Ён набліжаўся безупынна, спакойна і грозна. Раптам ён змоўк. У канцы вуліцы пачулася дыханне мноства людзей. Але нікога не было відаць: толькі ў самай глыбіні сярод густой цемры можна было адрозніць мноства металічных ніцей. То былі штыкі

і дулы стрэльбаў, цьмяна асветленыя далёкім водблі-скам паходні.

Раптам з гэтай цемры раздаўся злавесны голас:

— Хто ідзе?

У тую-ж хвіліну пачулася бразганне стрэльбаў. Начальнік барыкады адказаў гучна і горда:

— Французская рэвалюцыя...

— Плі!—раздалася каманда.

Страшэнны залп раздаўся над барыкадай. Чырвоны сцяг зваліўся. Залп быў такі моцны і густы, што зрэзаў дрэўка. Кулі, адскочыўшыя ад карнізаў дамоў, папалі на барыкаду і ранілі некалькі чалавек.

Атака была жорсткая і прымусіла задумацца самых адважных. Было ясна, што давядзецца мець справу з цэлым палком.

— Таварышы,—крыкнуў начальнік барыкады,— прыберажыце порах! Не страляйце, пакуль яны не пакажуцца на вуліцы! І, перш за ўсё,—дадаў ён,— паднімем сцяг!

Ён падабраў сцяг, які ўпаў каля яго ног. Пачуўся ляск шомпалаў: салдаты зноў зараджалі стрэльбы.

Пры гуках стрэлаў салдаты кінуліся на барыкаду. Хутка дзве трэці яе былі заняты салдатамі. Але пераскочыць цераз агарожу салдаты не адважваліся. Яны напэўна баяліся, што там іх чакае пастка. Яны заглядалі ў сярэдзіну барыкады, нібы ў бярлогу ільва. Паходня асвятляла штыкі, калматыя шапкі і ўстрывожаныя злыя твары.

Большасць атакаваных узабраліся на вокны першага паверха і на вышкі, адкуль ім было зручней страляць. Самыя смелыя горда прыхіліліся да сцен дамоў і глядзелі на гвардзейцаў, якія стаялі на барыкадзе.

Афіцэр агаліў шаблю і сказаў:

— Накладзіце зброю!

— Плі!—скамандаваў начальнік барыкады.

Два залпы прагрымелі адразу, і ўсё знікла ў едкім удушлівым дыме.

Застагналі параненыя і паміраючыя.

Калі дым рассеяўся, можна было бачыць байцоў. Рады іхнія парадзелі, але, хто астаўся жывы, стаялі на тых самых месцах і моўчкі зараджалі стрэльбы.

Раптам раздаўся грамавы голас:

— Уцякайце, бо я ўзарву барыкаду.

Усе павярнуліся ў той бок, адкуль пачуўся голас.

Начальнік барыкады ўвайшоў у шынок, узяў там бачонак з порахам і, карыстаючыся дымам, які ахутаў барыкаду, праскочыў уздоўж яе да таго месца, дзе гарэла паходня. Мігам ён вырваў паходню і паставіў на яе месца бачонак з порахам.

Цяпер афіцэры і салдаты са здзіўленнем глядзелі, як ён, стоячы на каменнях, з паходняй у руках, з рашучасцю на гордым твары, нахіліў палаючую паходню да бачонка з порахам і страшэнным голасам крычаў:

— Уцякайце, або я ўзарву барыкаду!

Цераз хвіліну ён паднёс паходню да бачонка.

Але на барыкадзе нікога ўжо не было. Пакінуўшы мёртвых і параненых, гвардзейцы ў замяшанні і беспарадку адступілі ў самы далёкі канец вуліцы і зніклі ў цемры. Гэта было сапраўднае бегства. Барыкада была вызвалена.

Паўстанцы расставілі вартавых і пачалі перавязваць параненых.

Начальнік барыкады паклікаў Гаўроша. Хлопчык весела падбег да яго.

— Ты згодзен зрабіць мне вялікую паслугу?

— Усё, што хочаце, —сказаў Гаўрош.

— Вось, вазьмі пісьмо. Ідзі зараз-жа з барыкады.

Гаўрош трывожна пачухаў патыліцу.

— Ты занясеш пісьмо па гэтаму адрасу. Гэта не вельмі далёка.

Маленькі герой адказаў:

— Добра! Але-ж за гэты час возьмуць барыкаду, а мяне не будзе.

— Атака будзе, напэўна, толькі на світанні, а ўзяць барыкаду яны здолеюць не раней поўдня.

— Ці не можна мне занесці ваша пісьмо заўтра раніцою?—запытаў Гаўрош.

— Не, гэта будзе позна. Бяжы зараз.

Не знаходзячы больш пярэчанняў, Гаўрош стаяў у нерашучасці, засмучаны. Раптам ён устрапянуўся, як птушка, і ўзяў пісьмо.

— Добра, я пайду,—сказаў ён.

У Гаўроша з'явілася шчаслівая думка. Ён яе не выказаў, баючыся пярэчанняў начальніка.

Гаўрош вырашыў:

„Зараз толькі поўнач. Я занясу пісьмо зараз-жа і спраўлюся да часу вярнуцца“.

Гаўрош занёс пісьмо і, спяшаючыся назад на барыкаду, старанна разбіваў па дарозе ліхтары. Прабягаючы па цёмных, бязлюдных вуліцах, ён на ўвесь голас распяваў песні. Пры гэтым ён шчодра выкідаў розныя пагражаючыя жэсты і корчыў рожы. Іх у яго быў невычарпальны запас. Шкада, што на бязлюднай вуліцы ніхто не мог яго бачыць. Ён марна траціў сваё багацце.

Раптам ён спыніўся. Яго кашачыя зрэнкі заўважылі каля варот ручную цялежку і чалавека, які спаў на ёй.

Ручкі цялежкі ўпіраліся ў брук, а галава спаўшага ўпіралася ў дно цялежкі. Нахіленае цела скурчылася, а ногі дакраналіся зямлі.

Гаўрош здагадаўся, што гэты чалавек п'яны.

„Вось,—падумаў Гаўрош,—на што гадзяцца летнія ночы. Чалавек гэты заснуў у сваёй цялежцы. Я захаплю цялежку для рэспублікі, а п'яніцу пакіну тут. Цялежка вельмі спатрэбіцца на нашай барыкадзе“.



*) Віктар Гюго. Гаўрош

П'яніца храпеў.

Гаўрош асцярожна пацягнуў яго за ногі. Той, не прачынаючыся, расцягнуўся на бруку.

Цялежка была вызвалена.

Гаўрош заўсёды насіў з сабой розныя рэчы. Ён пакапаўся ў кішэні і дастаў шматок паперы і агрызак чырвонага алоўка.

Гаўрош напісаў:

„*Атрымаў тваю цялежку для Французскай рэспублікі.* *Гаўрош*".

Потым усунуў паперку ў кішэню плісавай камізэлькі п'яніцы, ухапіўся за ручкі цялежкі абодвума рукамі і галопам паімчаўся да Парыжскага рынка, штурхаючы перад сабой цялежку з трыумфальным грукатам.

Гэта была вельмі небяспечная выдумка. Па дарозе, у каралеўскай друкарні, змяшчаўся каравульны атрад. Гаўрошу гэта не прышло надумку. Атрад успалашыўся, на паходных ложках прыўзняліся галовы. Два ліхтары, разбітыя адзін за адным, песня, праспяваная на ўвесь голас,—было чаго перапалохацца баязлівым вуліцам, якія засынаюць з заходу сонца і прывыклі рана гасіць свечкі. Вось ужо цэлая гадзіна, як хлапчук звінеў у гэтым ціхім раёне, нібы камар, які трапіў у бутэльку.

Афіцэр прыслухаўся. Ён чакаў. Ён быў чалавек асцярожны. Незвычайны грукат цялежкі вывеў яго з цярпення.

Афіцэр асцярожна і бясшумна вышаў з каравульні.

Гаўрош нечакана спаткаўся твар у твар з ваенным мундзірам, ківерам і стрэльбай.

Ён стаў, як укопаны.

— Прывітанне, грамадскі парадак,—сказаў ён.

— Куды ідзеш?—гаркнуў афіцэр.

— Грамадзянін,—адказаў Гаўрош,—я-ж яшчэ не абазваў вас буржуа. А вы чаму мяне лаеце?

— Куды ідзеш, лодыр?

— Шаноўны паночак,—запярэчыў Гаўрош,—учора вы, магчыма, і былі разумным чалавекам, але сёння раніцою вас разжалавалі.

— Адказвай, куды ідзеш, нягоднік?

Гаўрош адказаў:

— Вы вельмі ласкавы. Сапраўды, вам нельга даць вашых год. Прадалі-б вы свае валасы па сто франкаў за штуку. Атрымаеце пяцьсот франкаў.

— Куды ідзеш? Куды ідзеш? Скажаш ты, куды ідзеш, падлец?

— Ух, як вы груба выслаўляецеся!

— Да зброі!—гаркнуў афіцэр.

Гаўрош мігам уцяміў, як выйсці з цяжкага становішча. Цялежка ўвяла яго ў бяду. Няхай цялежка яго і выратоўвае.

Афіцэр падступіў да Гаўроша, але хлопчык мігам ператварыў цялежку ў баявы снарад—са ўсёй сілы шпурнуў яе ў афіцэра. Ён бухнуўся дагары ў лужу. Стрэльба стрэльнула ў паветра.

На крык з каравульні выбеглі салдаты, раздаўся ружэйны залп, за ім другі, трэці . . .

Пальба цягнулася добрую чвэрць гадзіны. Шмат аконных шыб было разбіта ўшчэнт.

Тым часам Гаўрош адным духам адмахаў пяць вуліц і, засопшыся, сеў адпачыць на бруку.

Ён прыслухаўся.

Перадыхнуўшы, ён павярнуўся ў той бок, дзе бушавала страляніна, падняў руку і, растапырыўшы пальцы, прыставіў яе к носу.

Але раптам схамянуўся.

— Я тут паміраю ад смеху, а з дарогі-то збіўся. Давядзецца зрабіць чортаву дугу. Толькі-б у час паспець на барыкаду! І ён паімчаўся, як віхор.

# АТАКА

Дзень надыходзіў хутка. Але ніводнае акно, ніводныя дзверы не адчыніліся. Сонца даўно ўзышло, а людзі не паказвалі ніякіх адзнак жыцця. На вуліцы Шанврэры, пакінутай войскамі, панавала злавесная цішыня. Суседнія вуліцы былі бязлюдныя.

Нікога не было відаць, але даносіліся нейкія гукі.

Здалёк насоўвалася штосьці таямнічае. Як напярэдадні ўвечары, вартавыя зняліся з месц і вярнуліся на барыкаду.

У тым баку, адкуль чакалі атакі, панавала глыбокая цішыня. Начальнік загадаў усім заняць баявыя пасты.

Уздоўж каменнай сцяны пачуліся кароткія, сухія гукі. Гэта зараджалі стрэльбы.

Чакаць прышлося мала. Ляск ланцугоў, злавеснае грукатанне чагосьці вялізнага, звон медзі па бруку, урачысты грукат — усё гаварыла аб набліжэнні артылерыйскіх гармат.

Паказалася першая пушка.

— Плі! — скамандаваў начальнік барыкады.

З барыкады раздаўся дружны залп. Дым, нібы лавіна, засланіў ад вачэй пушку і людзей; цераз некалькі хвілін воблака рассеялася, пушка і людзі з'явіліся зноў.

— Зарадзіце стрэльбы! — скамандаваў начальнік.

У той час, як рэвалюцыянеры зноў зараджалі стрэльбы, артылерысты зараджалі пушку.

Пушка стрэліла, ядро паляцела.

— Тут! — пачуўся вясёлы голас.

Ядро звалілася на барыкаду. У гэту-ж хвіліну ў яе ўляцеў Гаўрош. Яго з'яўленне здзівіла ўсіх больш, чым ядро.

Ядро завязла ў грудзе абломкаў. Яно зламала кола амнібуса і прыканчыла стары воз. На барыкадзе ўсе засмяяліся.

— Давайце яшчэ!—крыкнуў адзін з рабочых артылерыстам.

Гаўроша абступілі. Але яму нічога не давялося расказаць. Начальнік хутчэй адвёў яго ўбок.

— Ты чаго сюды з'явіўся?

— Таго, што і вы,—горда адказаў хлапчук, гледзячы на яго шырока адкрытымі, ззяючымі вачыма.

— Хто табе дазволіў вярнуцца? А пісьмо? Ты яго перадаў?

— Грамадзянін, я аддаў пісьмо вартаўніку. Ён перадасць.

Начальнік, пасылаючы пісьмо, меў дзве мэты: ён развітваўся з сваёй нявестай і ратаваў Гаўроша. Давялося задаволіцца паловай таго, што ён хацеў.

Не прайшло і хвіліны, як Гаўрош апынуўся на процілеглым канцы ўмацавання.

— Дзе мая стрэльба? — крычаў ён.

Яму далі стрэльбу паліцэйскага, узятага ў палон.

Гаўрош папярэдзіў таварышоў, што ўсе суседнія вуліцы запруджаны войскамі.

— Даручаю вам узгрэць іх, як трэба, — весела дадаў Гаўрош.

Тым часам начальнік у сваёй байніцы напружана прыслухоўваўся.

— Схіліце галовы бліжэй да сцяны! — крыкнуў начальнік.—Станьце на калені ўздоўж барыкады.

Але залп раздаўся раней, чым загад справіліся выканаць.

Залп быў накіраваны на выхад з барыкады і ўдарыў у сцяну. Двух чалавек забіла і трох параніла.

Такі абстрэл барыкада нядоўга магла вытрымаць. Карцеч заляцела ў сярэдзіну.

Атака вялася далей. Ружэйныя стрэлы і карцеч чаргаваліся, паступова разбураючы барыкаду.

Пры кожным залпе Гаўрош выпучваў шчаку языком, паказваючы гэтым поўную пагарду да артылерыстаў.

Сонца стаяла высока на небе.

Адзін з абаронцаў барыкады звярнуўся да начальніка:

— Мы галодныя. Няўжо мы так і памрэм не еўшы?

Начальнік стаяў, аблакаціўшыся на байніцу і не зводзячы вачэй з вуліцы. Ён адказаў пацвярджальным кіўком галавы.

Артылерысты шпарка падкацілі другую пушку і наставілі не побач з першай.

Гэта прадвяшчала хуткую развязку.

Праз некалькі секунд абедзве гарматы адкрылі пальбу; ружэйны агонь падтрымліваў артылерыю.

— Трэба ўгаманіць гэтыя пушкі, — сказаў начальнік і крыкнуў: — Плі ў артылерыстаў!

Усе даўно былі гатовы; барыкада з радасцю ўзняла шалёную страляніну. Шэсць або сем залпаў прагрымелі адзін за адным; вуліца напоўнілася асляпляючым дымам. Праз некалькі хвілін скрозь туман удалося ўбачыць дзве трэці артылерыстаў, ляжаўшых пад калёсамі пушак. Хто асталіся жывыя, па-ранейшаму абслугоўвалі гарматы, але пальба стала радзейшая.

— Як удала! — сказаў адзін з рабочых, зварачаючыся да начальніка барыкады.— Поўны поспех!

Начальнік паківаў галавой і адказаў:

— Яшчэ чвэрць гадзіны такога поспеху і на барыкадзе не астанецца і дзесятка патронаў.

Гаўрош чуў гэтыя словы.

## МАЛЕНЬКІ ГЕРОЙ

Раптам на барыкадзе заўважылі, што нехта спусціўся на вуліцу і стаіць пад выстраламі.

Гаўрош узяў у шынку карзінку для бутэлек, вышаў праз шчыліну, паміж барыкадай і сцяной, і спакойна

пачаў апаражняць у сваю карзінку патранташы забітых.

— Што ты такое робіш?—крыкнулі яму з барыкады.

Гаўрош узняў галаву.

— Грамадзяне, я напаўняю карзінку.

— Не бачыш ты, ці што, карцечы?

Гаўрош адказаў:

— Дожджык ідзе, вялікая важнасць!

Начальнік крыкнуў:

— Вярніся!

— Зараз,—сказаў Гаўрош і пусціўся бягом па вуліцы.

Каля дваццаці мерцвякоў валяліся ўздоўж вуліцы на бруку. Дзесяткі два патранташаў. Запас пораху для барыкады.

Вуліца была ахутана дымам, нібы туманам. Ён паволі падымаўся і зноў напаўзаў. Ад яго на вуліцы сярод белага дня было амаль цёмна. Удзельнікі бою з абодвух бакоў гэтай кароткай вуліцы ледзь маглі заўважыць адны адных.

Цемра аказалася зручнай Гаўрошу.

Схаваны ў дыму і дзякуючы свайму маленькаму росту ён мог прабрацца даволі далёка, не заўважаны салдатамі. Першыя шэсць або сем патранташаў ён апаражніў, і яму не пагражала вялікая небяспека.

Ён сунуўся на жываце, поўз на руках і нагах, трымаючы карзінку ў зубах, курчыўся, коўзаўся, скручваючыся, прабіраючыся ад аднаго мерцвяка да другога і апаражняючы патранташы, як малпа лушчыць арэхі.

Ад барыкады ён быў покуль яшчэ недалёка, але яго не адважваліся клікаць, баючыся прыцягнуць да яго ўвагу ворагаў. Ён прабіраўся ўсё далей і дапоўз да таго месца, дзе туман ад выстралаў быў не вельмі густы.

Стралкі, залёгшыя каля сценкі з булыжніку, і салдаты, якія скучыліся на рагу вуліцы, паказалі адзін аднаму туды, дзе нешта варушылася ў дыме. У тую хвіліну, як Гаўрош вызваляў ад патронаў забітага сержанта, у труп папала куля.

— Чорт вазьмі!—ускрыкнуў Гаўрош.—Маіх мерцвякоў забіваюць.

Другая куля ляснула ў брук каля яго. Трэцяя перакуліла яго карзінку.

Гаўрош азірнуўся і ўбачыў, што страляюць з рога вуліцы.

Ён падняўся, выпрастаўся ва ўвесь рост. Вецер развяваў яго валасы. Гледзячы на гвардзейцаў, якія цэліліся ў яго, Гаўрош весела і гучна заспяваў песеньку.

Потым падняў карзінку, паклаў назад усе патроны, што вываліліся з яе і, наблізіўшыся да стралкоў, пачаў апаражняць другі патранташ. Чацвертая куля прасвістала міма, а Гаўрош усё спяваў.

І на пятую кулю ён адказаў песенькай.

Відовішча было страшэннае. У хлопчыка стралялі, а ён дражніў стралкоў. Здавалася, што ён з асалодай забаўляўся. На кожны стрэл ён адказваў куплетам. У яго цэліліся бесперапынна і ніяк не маглі папасці. Гвардзейцы смяяліся, страляючы ў яго. Ён клаўся, ускокваў, хаваўся пад вароты, знікаў, з'яўляўся зноў, ратаваўся бегучы, прыбягаў назад, пагражаў кулаком, апаражняў патранташы і напаўняў сваю карзінку. З барыкады са страхам сачылі за ім вачыма. Кулі даганялі яго, але ён быў спрытнейшы як кулі. Ён нібы гуляў у хованкі са смерцю.

Але, нарэшце, каварная куля насцігла хлапчука. Гаўрош хістануўся і ўпаў. Крыкі жаху раздаліся на барыкадзе. Гаўрош прыўзняўся, струмень крыві ліўся па яго твару, ён працягнуў рукі і, гледзячы ў той бок, адкуль раздаўся стрэл, зноў заспяваў.

Ён не паспеў скончыць сваю песеньку. Другая куля прымусіла яго змоўкнуць. На гэты раз ён паваліўся тварам на брук і болей не варушыўся.

Маленькі герой быў забіты.

---

